

# Працоўная Грамада

У адзінстве сіла!

№ 4
травень
2000 года

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ ЎСХОДНЯЙ ВІЦЕБШЧЫНЫ

## Змест



**ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН**

*Цяжкі застой на Беларусі*
*Каторы год.*
*І разважаюць людзі:*
*Мусіць,*
*Такі народ.*

*Чужым і ўласным*
*дармаедам*
*Гдядзіць у рот*
*І паслухмяна крочыць*
*следам –*
*Такі народ.*

*Як ні гукай адчайна:*
*—Людцы!*
*Ганіце зброд! –*
*Яны ў адказ адно смяюцца.*
*Такі народ.*

*Не хочуць мець парадак*
*новы.*
*Наадварот,*
*Гатовы жыць без роднай*
*мовы.*
*Такі народ.*

*Хаця прывык да ўсякай*
*працы,*
*Шукае брод,*
*Каб не дай бог не*
*вытыркацца.*
*Такі народ.*

*Трываць дурныя кпіны*
*будзе*
*И недарод…*
*Няўжо і праўду кажуць*
*людзі –*
*Такі народ?..*

# Народная памяць...

У гэтым годзе ў траўні месяцы сышліся дзве юбілейныя даты: 55-годзе Перамогі ў Вялікай Айчынай вайне і пятая гадавіна ганебнага рэферэндума. Менавіта так ацэньваюць рэферэндум 1995 года беларускія пісьменнікі, дзеячы культуры, усе грамадзяне, каму баліць у сэрцы за лёс роднай культуры. Менавіта ў траўні пяцігадовай даўніны была адкрыта "пяцігодка руйнавання" ўсяго беларускага ў сістэме адукацыі, духоўным жыцці краіны, як пераканаўча напісаў у "Нашай Ніве" наш знакаміты зямляк Рыгор Барадулін.

Гады паступова змяншаюць ураждамнне: ад бандыцкіх дзеянняў улад пры выкідванні дэпутатаў Вярхоўнага Савета з залы паседжанняў – мы так і не пабачылі тыя кадры начной бойкі, якую распачалі быц-цам бы народныя дэпута-ты, бо ў сапраўднасці гвал-тоўна дзейнічаў спецназ; ад фальсіфікаванага, падробленага фільма пра палі-тычную апазіцыю Лука-шэнкі — мы так у поўнай меры не асэнсавалі судовае рашэнне аб прызнанні фільма ў значнай меры фальшыўкай, які быў зроблены з мэтай дыскрэдытацыі дэмакратычных сіл; ад татальнай прапаганды дзя-ржаўных СМІ супраць на-цыянальных гістарычных сімвалаў Беларусі – мы тады так і не дачакаліся перадачы Паўла Шарамета "Праспект", дзе былі падрыхтаваны матэрыялы аб гістарычных сімвалах Бацькаўшчыны, ды і больш не бачылі Шарамета ў пра-грамах БТ.

Прайшло пяць год і яшчэ большай колькасці грамадзян стала зразумела, што ў народа, які можа памятаць толькі пяцьдзесят гадоў сваёй гісторыі няма будучыні. Важакі камуністычнай партыі зразумелі гэта ў пачатку вайны і звярнуліся да імён Неўскага, Ушакова, Суворава, Кутузава, каб абудзіць гістарычную адказнасць людзей за краіну. Наколькі ўдала гэта спрацавала аца-ніць нам складана, бо сал-даты падымаліся ў атаку з воклічам "За Сталіна!", а найбольш надавала сіл словы маршала Жукава аб тым, што пасля перамогі ў прыватнае карыстанне дадуць зямлю – менавіта пра гэта неаднойчы казаў мой дзед Аляксандр Паўлавіч Вараб'ёў, які прайшоў фінскую вайну і ўсю ВАВ аж да красавіка 1945 года, калі быў цяжка паранены ў танкавым баі пад Секешвехерварам ў Венгрыі.

Толькі сёння сярод усіх славянскіх народаў беларусы не маюць сваёй нацыянальнай гістарычнай сімволіцы ў статусе дзяржаўнай – пра гэта сарамліва маўчаць дзяржаўныя СМІ. Яны не кажуць пра тое, што мы яднаемся з краінай, дзяржаўнымі сімваламі якой сталі ўласаўскія герб і сцяг, а ўласаўцы змагаліся на баку немцаў з бальшавікамі. Яшчэ не шмат людзей асэнсавала, што наша паўднёвая суседка - самастійная Украіна мае дзяржаўны сцяг, пад якім байцы Сцяпана Бандэры змагаліся за незалежную краіну. Проста нашы славянскія суседзі здолелі захаваць сваю народную памяць пра гістарычныя сімвалы, падтрымалі на выбарах людзей, якія не адмаўляюць сваю шматвекавую гісторыю і не з'яўляюцца «Иванами не помнящими своего родства».

Праходзячы травень яшчэ раз нагадаў пра неабходнасць ашчадных адносін да народнай памяці, каб канчаткова не знікнуць беларусам з зямлі, пасля некалькіх стагоддзяў каланізацыі і асіміляцыі. Стабільна магчыма развівацца толькі краіне ў якой ёсць згода ў адносінах да сваёй гісторыі, якой бы яна была непажаданай для вялікіх па тэрыторыі суседзяў. Паважаюць толькі тых, хто мае памяць.

## Анекдот-с!

Минск. Площадь Независимости. Под большим бел-чырвона-белым флагом стоит оппозиционер и раздает прохожим листовки. Один прохожий взял листовку, спрятал и отойдя на безопасное расстояние развернул – а там только чистый лист.

В неудоумении он вернулся к оппозиционеру и спрашивает:

- Что вы даете? В листовке ничего нет.
- А зачем писать? И так все ясно.

# УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД. ХРОНІКА ПАДЗЕЙ

**Люты 2000 года.** Аўтарытэтныя грамадскія дзеячы краіны: Радзім Гарэцкі, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Янка Брыль, Стэфанія Станюта, Ніл Гілевіч, Уладзімір Арлоў, Аляксей Дудараў і іншыя звярнуліся да суайчыннікаў з прапановай правесці Усебеларускі З'езд. *"Тыя, хто імкнецца зліквідаваць нашую дзяржаўнасць, бессаромна спасылаюцца на ідэі інтэграцыі і грамадскую думку. Пад хісткай заслонай хлусні і фальсіфікацыяў яны рыхтуюць здачу суверэнітэту краіны, інкарпарацыі яе ў новую агрэсіўную імперыю. Гэты згубны здрадніцкі працэс неабходна рашуча спыніць. Дзеля гэтага мы звяртаемся да ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны з прапановай правесці ў 2000 годзе Ўсебеларускі З'езд.*

*Мэта яго – заявіць усяму свету, што дзяржаўнасць і дабрабыт Беларусі з'яўляюцца для ўсіх нас вышэйшымі каштоўнасцямі, што мы ніколі не дазволім ад нашага імя гандляваць Радзімай. Мы хочам і будзем сцвярджаць працаю і законнасцю сваю роўнасць між цывілізаваных, дэмакратычных народаў, сяброўючы і супрацоўнічаючы з імі, уносячы свой непаўторны ўклад у развіццё прагрэсу.*

*Калі трэба бараніць незалежнасць роднай дзяржавы, павінны быць адсунуты ўбок палітычныя разнагалоссі, забыты асабістыя крыўды. Разам мы здолеем захаваць сваю краіну."*

**26 красавіка.** На мітынгу, прысвечаным трагічным угодкам аварыі на Чарнобыльскай АЭС, што ладзіла дэмакратычная грамадскасць Віцебска, адбылося абранне першага дэлегата Усебеларускага з'езда. Удзельнікі мітынга абралі дэлегатам з'езда Анатоля Гнеўку, кіраўніка дабрачыннай арганізацыі "Чарнобыль – дапамога".

**7 траўня.** Адбылася сустрэча кіраўніка рабочай групы аргкамітэта УЗ Аляксандра Старыкевіча з прадстаўнікамі Віцебскай абласной Асамблеі НДА. Старыкевіч апавядаў аб мэтах правядзення з'езду і задачах, якія неабходна вырашыць па яго падрыхтоўцы. Прысутныя з цікавасцю аднесліся да ідэі правядзення Усебеларускага з'езду і прапанавалі правесці яго першую сесію не пазней 10-х угодкаў прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце, звярнуць асаблівую ўвагу на наглядную агітацыю за ідэі з'езда.

**13 траўня.** Сустаршыні аргкамітэта: Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Рыгор Барадулін прычялі Мемарандум "Аб мэтах Усебеларускага з'езда". У Мемарандуме адзначаецца:

"Мэта з'езда – прыняцце Акта Незалежнасці – дакумента, цэнтральнай ідэяй якога з'яўляецца абвяшчэнне дзяржаўнасці свяшчэннай каштоўнасцю беларускага народа. Усе крокі скіраваныя на абмежаванне ці скасаванне суверэнітэта, павінны лічыцца незаконнымі і злачыннымі. **Незалежнасць Беларусі ёсць набытак не толькі цяперашняга, але і мінулых, і наступных пакаленняў, і таму ніхто не мае права распараджацца ёю паводле ўласных інтарэсаў.**

Акт Незалежнасці падмацуе падмурак беларускай дзяржаўнасці, закладзены Устаўнымі граматамі Рады БНР, Дэкларацыяй аб суверэнітэце і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Спадзяёмся, што ён таксама стане дадатковым чыннікам салідарызацыі ўсіх дэмакратычных грамадскіх сіл дзеля сумеснай працы на карысць Бацькаўшчыны і паспрыяе аднаўленню законнасці ў краіне.

Мы хочам знайсці паразуменне з усімі, хто лічыць, што Беларусь павінна быць асобнай дэмакратычнай заможнай краінай. **Толькі разам мы зможам палепшыць наша сёння і дамагчыся шчаслівага заўтра для нашчадкаў.** Дзеля гэтага заклікаем суайчыннікаў аб'ядноўвацца вакол ідэі Усебеларускага з'езда".

## *Усебеларускі З'езд у пытаннях і адказах:*

**1. Што такое Ўсебеларускі З'езд і чаму Ўсебеларускі?**

Аўтарытэтныя грамадскія дзеячы Беларусі, заклапочаныя пагрозай, кая навісла над беларускай дзяржаўнасцю выступілі з ініцыятывай правядзення ў 2000 годзе Усебеларускага З'езду. Гэту ідэю падтрымалі грамадзяне Беларусі, а таксама шэраг грамадскіх арганізацый і палітычных партыяў. У адрозненні ад Кангрэсу дэмакратычных сілаў ці Форуму народна-дэмакратычных сілаў, на якіх былі прадстаўлены толькі асобныя, няхай нават і шырокія сегменты нашага грамадства, **Усебеларускі З'езд – мерапрыемства агульнанацыянальнага маштабу**. Адсюль назва з'езду – Усебеларускі. Плануецца, што на ім будуць прадстаўленыя ўсе тыя сілы, якім небыякавы лёс краіны. У з'ездзе прымуць удзел прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Беларусі, вылучаныя па тэрытарыяльным прынцыпе на сходах грамадскасці, а таксама дэлегаты ад палітычных партый, грамадскіх арганізацый творчых і прафесійных саюзаў і іншых аб'яднанняў.

Усебеларускі З'езд 2000 году наследуе традыцыі Усебеларускага З'езду 1917 году, які стаў пралогам да стварэння беларускай дзяржавы ў сакавіку 1918 года.

## ПАДЗЕЯ МЕСЯЦА

1. Прысуд Міхаілу Чыгірю – 19 траўня.
2. Гадавіна трагедыі на ст. "Няміга" – 30 траўня.
3. Святкаванне 55-й гадавіны Перамогі – 9 траўня.
4. Грамадскі дыялог.
5. Пяцігоддзе ганебнага рэферэндума – 14 траўня.

Сярод падзей месяца за межамі нашай пяцёркі апынулася сустрэча кіраўнікоў краін-ўдзельнікаў Мытнага Саюза, бо колькасць усялякіх кантактаў паміж кіраўнікамі былых рэспублік у межах розных саюзаў ніяк не пераходзіць у якасць, а таксама прадстаўленне Уладзімірам Ярмошыным праграмы дзеянняў Саўміна, бо, як адзначыла адна газета, за яе магчыма галасаваць бязбоязна, як і за правілы жыццёвага кодэкса акцябронка.

Рэферэндум 14 траўня застанецца ў гісторыі беларусаў ганебнай падзеяй, калі яшчэ дэмакратыя была вельмі кволай і здолела бараніць святыя каштоўнасці.

Грамадскі дыялог, у якім не удзельнічаюць апазіцыйныя партыі, стварае ілюзію перамоў, але не вырашае галоўных праблем развіцця краіны: стварэння атмасферы даверу ў краіне, ліквідацыі палітычнага генацыду ў дзяржаўных СМІ, прадстаўленне ПП рэальных заканадаўчых праў, садзейнічанне станаўленню грамадзянскай супольнасці. Апазіцыйныя партыі яшчэ восенню сфармуліравалі свае прапановы уладам, але не былі імі пачуты. Які сэнс яшчэ раз атрымліваць адлуп ад улад?

Святкаванне Перамогі больш нагадвала прапагандысцкае шоў, чым рэальны клопат аб дабрабыце ветэранаў, бо грошаў затрачаных на святкаванне спаўна хапіла бы на двухкратныя пенсіі ветэранам. Ды і ўсё меней тых, хто са зброяй прайшоў вайну.

Гадавіна трагедыі засведчыла, што ўлады стойка трымаюцца пазіцыі, што ніхто з яе прадстаўнікоў не вінаваты ў смерці 53 маладых людзей. Гэта апазіцыю магчыма зрабіць адказнай за спыненне руху на 20 хвілін, а калі гінуць людзі на святкаванні паўдзяржаўнай структуры, то вінаватых няма.

Галоўнай падзеяй месяца стала абвяшчэнне прысуда Міхаілу Чыгіру – былому прэм'ер міністру краіны, які падаў у адстаўку пад час нелегітымнага рэферэндуму 1996 года і вярнуўся ў палітыку, калі апазіцыя пачала рыхтаваць прэзідэнцкія выбары, бо гэта адпавядала Канстытуцыі краіны. Міхаіл Чыгір быў арыштаваны, калі яго зарэгістравалі кандыдатам на пасаду прэзідэнта Беларусі. Без усякага следзства ён быў абвінавачаны ў невяртанні і крадзяжы буйных крэдытаў, адсядзеў пад следствам у турме больш шасці месяцаў. Следства не знайшло доказаў віны Чыгіра па абвінавачаннях, зробленых уладамі. Суд знайшоў толькі магчымасць даць Міхаілу Чыгіру тры гады турмы з адтэрміноўкай прысуда на два гады. Абарона падала пратэст у Вярхоўны Суд. Еўрапейскія дыпламаты выказалі таксама нязгоду з палітычным прысудам.

# ЧЫГІР – НА КАРОТКІМ ПАВАДКУ

Лукашэнкава ўлада пацьвярджае сваю вернасць палітыцы паўрэпрэсіяў у дачыненьні да палітычных апанэнтаў. Апазіцыянэраў не забіваюць, а садзяць у турму ці на падпіску, незалежныя газэты не зачыняюць, а абкладваюць папярэджаньнямі, каб у любы момант магчы зачыніць " на законнай падставе". Трыманьне на кароткім павадку дэмаралізуе апазыцыю, не дазваляе ёй стаць больш рашучай і радыкальнай, бо нібыта застаюцца шанцы на легальнае змаганьне...

**Вытрымка гутаркі з Міхаілам Чыгіром**

**"НН": Вы асабіста гатовыя падтрымаць Лукашэнку, калі ён зьменіць палітычны і эканамічны курс?**

М. Ч. : Я вам скажу больш. Пазатым летам людзі Лукашэнкі прапанавалі мне вярнуцца і працаваць ува ўрадзе. Каб я бачыў, што ён зьмяняе курс, што ён на іншай аснове будуе адносіны з Захадам і міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі, што эканоміку ён пачынае разьвіваць у іншым кірунку, што будуе дзяржаву на базе прыватнай уласнасьці, я даў бы згоду працаваць, але пакуль я нічога гэтага ня бачу. Было б вельмі добра, каб ён памяняў свой курс, стаўленьне да яго зьмянілася б, але я ня веру ў яго здольнасьць памяняць кірунак разьвіцьця. Перад маёй адстаўкай я меў многа размоваў з Лукашэнкам пра шляхі разьвіцьця дзяржаваў, я пераконваў яго ў тым, што іншага шляху апроч таго, якім ідуць іншыя краіны рэгіёну, няма, але я так і ня змог яго пераканаць. Чаму ён ня здольны памяняць кірунак разьвіцьця, ня знаю. Маладым, здавалася б, яшчэ чалавек, мо й занадта малады для прэзідэнта, але выпраўляць свае памылкі нездольны. Гэта вельмі дрэнна."

( **"НАША НІВА" ад 22 траўня** )

# *Стратегия для Беларуси*

## *(концепция национального развития)*

**«Стратегия для Беларуси» - проект, призванный предложить обществу концепцию развития, дающую реальные возможности преодолеть глубокий системный кризис и шанс занять достойное место среди цивилизованных народов. Он предполагает создание политических, экономических, социальных условий для реализации гражданами своих прав и устремлений на основе общепризнанных прав и свобод, демократических институтов, права частной собственности и личной ответственности за последствия индивидуального добровольного выбора. Проект предполагает, что Беларусь сможет полностью реализовать свой потенциал только в единой европейской семье, являясь суверенным и равноправным субъектом международных отношений.**

**Документ разработан рабочей группой под руководством Мечислава Гриба, председателя Верховного Совета Республики Беларусь 12 созыва.**

## I. БЕЛАРУСЬ СЕГОДНЯ

В третье тысячелетие Беларусь вступает с грузом сложных проблем во всех сферах общественной жизни.

**Экономическая политика,** проводимая руководством республики значительно усугубила последствия системного кризиса для Беларуси. Особенно ущемлены интересы социально не защищенных групп населения, люди нищают. Уровень жизни белорусов оказался ниже, чем у соседей (страны Балтии, Польша), имевших примерно одинаковый исходный уровень экономического развития в конце 80-ых годов. По данным ООН более 75% населения Беларуси имеют уровень располагаемых ресурсов ниже минимального потребительского бюджета. Если в 1990г. на среднюю заработную плату можно было приобрести 2,1 набора товаров и услуг, входящих в минимальный потребительский бюджет (МПБ), то в 1998г. - 1,3, а в начале 1999г. - 1,1 МПБ. Это означает, что даже двое работающих в семье сейчас не могут обеспечить одного ребенка. Свыше 65% бюджета семьи расходуется на продукты питания. И это притом, что домашние хозяйства оплачивают лишь 10-15% себестоимости квартплаты, электроэнергии, коммунальных и транспортных услуг.

Основные средства промышленных предприятий амортизированы более чем на 75%. Темпы износа основных фондов в три раза превышают темпы их обновления и ремонта. Отсутствие средств на обновление трубопроводов, линий электропередач, теплотрасс увеличивает вероятность техногенных катастроф.

Сельское хозяйство, которое традиционно было донором индустриализации и модернизации, находится в критическом состоянии. В 1999 г. собран самый низкий урожай за последние 40 лет. Несмотря на предельно возможную поддержку АПК за счет других отраслей большинство хозяйств убыточны и зависят от поддержки государственного бюджета. На примере АПК хорошо видно необратимое разрушение производственного потенциала страны.

Внешний долг страны составляет около 1 млрд. USD, что по рыночному курсу эквивалентно 100% доходной части бюджета. Правительство не в состоянии оплатить даже текущие поставки энергоресурсов.

Государственной собственностью, которой в стране свыше 80%, распоряжаются высшие должностные лица страны. Отсутствуют прозрачность в решениях и механизмы ответственности за принятие экономических решений. Общество лишено возможности контролировать расходование бюджетных средств, тем более внебюджетных фондов.

Отсутствует также системная макроэкономическая политика, что дисбалансирует все потоки товаров и услуг, а также денежные потоки. Полноценный экономический расчет не возможен. Информационные искажения настолько велики, что даже среднесрочное прогнозирование является крайне проблематичным.

Не менее серьезны проблемы в **общественно-политической жизни.**

Действующая с 1996 г. de facto конституция ликвидировала принцип разделения властей, позволила президенту установить тотальный контроль над государственной машиной. В результате исполнительная власть не связана даже теми немногочисленными

***(Продолжение на с. 4)***

*(Продолжение. Начало на с. 3)*
ограничениями, которые содержит предложенная ею в 1996 г. конституция. В стране прочно установился режим «правового Чернобыля», по сути дела произошла ликвидация демократических институтов - представительной власти и независимости власти судебной.

Усиливается бюрократизация политического режима. За последние годы количество государственных служащих по отношению к занятым в экономике увеличилось в два раза, (соотношение же средней заработной платы к оплате труда чиновников изменилось в пользу последних). В действиях властей все большую роль играют силовые структуры, ограничиваются свободы слова и СМИ.

В своей политической практике власть опирается на демагогию и популизм, создание образа внутреннего и внешнего врага, применение политических репрессий. В Беларуси стали исчезать люди, являвшиеся оппонентами действующей власти. Государство стремится подмять под себя элементы нарождающегося гражданского общества. Ликвидирована независимая адвокатура и частный нотариат. Периодически проводятся кампании против негосударственных СМИ, вузов, субъектов хозяйствования. Общество практически лишено возможности цивилизованного противостояния произволу в силу отсутствия реальных механизмов для этого, что само по себе является фактором социальных рисков и конфликтов.

Организованные политические силы - партии лишены возможности цивилизованной парламентской борьбы и оказались в положении внесистемной оппозиции. Этический уровень политической жизни постоянно снижается. Обществу навязываются примитивные потребности и инстинкты люмпенизированной массы.

К началу 21 века белорусское общество пришло расколотым. Часть взрослого населения страны, среди которой доминируют молодые, образованные и экономически наиболее активные жители, хотят жить в независимой стране с рыночной экономикой. Другая часть населения, среди которой доминируют люди старшего возраста с невысоким уровнем образования, хотят жить в стране, где за все отвечало бы и все обеспечивало бы патерналистское государство.

Второй раскол в обществе отражает особенности национального самосознания белорусов. Часть населения видит в Западе угрозу ценностям славяно-православной цивилизации, другая часть считает, что внешняя угроза исходит из России и пытается противостоять интеграции с ней.

Выбор пути развития и социально-экономической модели будущего становится в таких условиях особой проблемой. Вместо обеспечения гражданского мира и общественного согласия с помощью компромиссов, учета мнений и позиций различных политических сил, в сегодняшней Беларуси политическая борьба доводится до степени психологической войны, политического и физического подавления оппонентов.

Серьезность внутриполитических проблем дополняется **проблемами внешнеполитическими.**

Республику Беларусь как новое независимое государство признали 140 государствами мира, со 125 из них установлены дипломатические отношения. Республику Беларусь посетили руководители США, России, Китая, Украины, Польши, Литвы и других стран. Это был достаточный уровень признания молодого государства мировым сообществом для полноценного участия в международной жизни.

Однако власти Беларуси не использовали предоставленные возможности интеграции в мировое сообщество. Сегодня отношения со странами Западной Европы и США можно характеризовать как холодные, напряженные, отчасти даже враждебные. Их улучшение возможно только после кардинальных перемен в Беларуси.

Беларусь оказалась изолированной от источников инвестиций и современных технологий Западной Европы и США, что делает экономику страны бесперспективной.

Активность в отношениях с рядом азиатских стран (официальные визиты, открытие посольств) принципиально не меняет международного положения Беларуси, имеет скорее внутриполитическое, пропагандистское значение. Стремление политическим путем получить преференции на российских рынках усугубляет экономическую и политическую зависимость от России, одновременно не стимулирует, а скорее тормозит технический прогресс и конкурентоспособность белорусской промышленности.

Международное положение Беларуси в последние годы продолжает ухудшаться. Страна по сути дела оказалась в международной изоляции.

Неконструктивность существующего курса, невозможность с его помощью преодолеть системный кризис угрожают самому **существованию нации.**

Число зарегистрированных заболеваний возросло за 1990-1997гг. в 1,3 раза, в том числе психических расстройств и нервных заболеваний примерно в 2 раза, активного туберкулеза на 46%, сифилиса в 5 раз, алкогольного психоза в 1,8 раза.

Потребление алкоголя в 1998г. составило 7,9 л в переводе на чистый спирт, а с учетом самогоноварения можно считать, что этот показатель превышает предельно-критическое значение в 8 л, после которого начинается генетическое вырождение нации. Алкогольная деградация сельского населения уже приняла массовый характер. Смертность от причин, связанных с алкоголизмом за последние 7 лет увеличилась в 2,1 раза.

Ожидаемая продолжительность жизни за 1990-1997гг снизилась на 3,2 года. При этом наибольшая интенсивность роста смертных случаев наблюдается у мужчин в молодых трудоспособных возрастах. В сельской местности Гомельской и Могилевской областей мужчины в среднем умирают, не дожив до пенсионного возраста.

Для простого замещения поколений каждая женщина в детородном возрасте должна родить в среднем 2,15 ребенка, сейчас же рождается 1,4 ребенка, т.е. страна вступила в фазу вымирания населения. Естественный прирост населения, начиная с 1993 г., стал отрицательным. К тому же демографическая ситуация в Беларуси - одна из самых плохих в Европе. Каждые 157 работающих содержат 100 пенсионеров. Количество пенсионеров превышает 25% всего населения.

Социальную ситуацию усугубляет необходимость нейтрализации последствий аварии на Чернобыльской АЭС. В результате катастрофы 23% территории Беларуси загрязнено долгоживущими радионуклидами. В зараженных областях проживает 1,84 млн. человек, из них почти 500 тысяч детей и подростков. Там, где радиация колеблется между 15 и 40 кюри на кв. км на Украине и в России люди давно отселены. А у нас на этих землях еще живет около 140 тысяч человек. Количество генетических отклонений у новорожденных в Гомельской области выросло с 1986 года примерно в 8 раз! 42% детей, родившихся на зараженных территориях имеют откло-

нения в психомоторном развитии. Показатели первичной инвалидности населения Беларуси увеличились с 1986 г. на 50%.

Практически все население Беларуси уже носит в своих телах разрушающую их организм радиацию. Главную дозовую нагрузку (70 - 90%) население продолжает получать за счет потребления продуктов питания местного производства, что свидетельствует об отсутствии государственной концепции оздоровления населения. Причем в последние годы объемы финансовых средств на выполнение Государственной программы по преодолению последствий катастрофы и социальную защиту пострадавших уменьшаются.

Даже состояние здоровья подрастающего поколения представляет собой потенциальную угрозу безопасности страны. Всего лишь 13-15% выпускников общеобразовательных школ Беларуси могут считаться здоровыми, 45-47% имеют функциональную патологию, 40% - хронические заболевания.

Наряду с ухудшением физического здоровья усиливается и отклоняющееся поведение населения. За 1990-1998гг. число зарегистрированных преступлений увеличилось в 1,62 раза, а число преступлений, связанных с употреблением наркотиков - в 7 раз. Количество заключенных возросло со 15,6 тысяч в 1990г. до более чем 50 тысяч в 1998г. Тюрьмы переполнены и плохо финансируются. Пенитенциарная система из попавших в нее людей делает физических и духовных инвалидов.

Подрывается социальное здоровье общества. Растет число разводов. Если в 1990г. распадалось 35% заключенных браков, то в 1997г- 67,8%, количество внебрачных детей выросло с 8,5% до 16,2%. С 1995 г. количество сирот и детей, лишенных родительской опеки выросло в 1,8 раза. Число самоубийств выросло с 1990 г. в 1,9 раза. Падает качество медицинского обслуживания и социального обеспечения. Больницы, дома престарелых зачастую не имеют элементарных лекарств и медикаментов.

Деградирует система образования. Учителя и работники культуры не могут себе позволить даже выписать газеты, не говоря о повышении своего профессионального уровня. Употребление нецензурной лексики в семьях и общественных местах становится едва ли не нормой поведения.

**Причины и факторы, обусловившие сегодняшнюю реальность.**

До начала 90-х Беларусь не функционировала как целостная экономическая система, не имела национальной экономической политики. В результате «общесоюзного разделения труда» в БССР развивались ресурсо- и энергоемкие производства, зачастую не имевшие в республике ни сырьевой базы, ни потребителей, но в тоже время позволявшие получать значительные преимущества и достаточное количество средств, чтобы стать высокоиндустриальной по социалистическим меркам страной. БССР в рамках централизованного планового хозяйства была «сборочным цехом», «конечным элементом в технологической цепи». Имевшее спрос на мировом рынке российское сырье здесь превращалось в неконкурентоспособную вне СЭВ продукцию. Благодаря существовавшему в СССР затратному механизму ценообразования БССР удавалось сохранять достаточно высокие темпы экономического роста.

Однако в целом советская экономическая система не смогла обеспечить рост производительности общественного труда. За 15 лет до распада СССР капиталовложения уже не вели к росту конечного продукта. После того, как легкодоступные природные ресурсы и внешние кредиты были использованы, система не смогла удержать достигнутый уровень жизни. Потребление населения стран бывшего СССР стало приводиться в соответствие с наличием ресурсов и производительностью.

После того как Россия, желая поддержать уровень жизни своего населения, начала приближать структуру цен к мировым, Беларусь оказалась в тяжелом положении. Восстановление «старых связей» и структуры товарооборота между Беларусью и Россией по мировым ценам на уровне, скажем, конца 80-х годов привело бы к ежегодной задолженности Беларуси перед Россией примерно в 2,5 млрд. долларов.

Вместо реформирования экономики, руководители Беларуси занялись политическими играми в «интеграцию», добиваясь доступа к российскому сырью и энергоносителям по внутрироссийским ценам. Несмотря на многолетние усилия, эта цель до сих пор не достигнута. Однако и ее достижение не способно решить проблемы белорусской экономики, главной из которых является ее низкая эффективность.

Более дешевые энергоносители - один из главных аргументов в пользу белорусско-российской интеграции - действуют на нашу экономику как новая доза для наркомана. Заниженные цены ведут к высоким затратам, которые в 8-10 раз отличаются от среднеевропейских.

В постсоветский период эффективность производства в Беларуси снизилась еще больше. В мире произошла смена поколения техники и технологий. Эффективность производства в развитых странах выросла. Это значит, что многие товары на мировом рынке стали еще дешевле, в то время как издержки на производство белорусских товаров еще более возросли. Сейчас значительная часть белорусских товаров экспортируется только потому, что их цена низка. Но высокие темпы научно-технического прогресса в постиндустриальных странах, быстро меняют соотношение «цена-качество» не в пользу застывшей в своей отсталости белорусской промышленности и сельского хозяйства. Буквально в ближайшие годы белорусскую продукцию перестанут покупать даже в развивающихся странах, в том числе и в России, даже по ценам, которые ниже издержек их производства. Разрекламированной официальной пропагандой экономический рост 1996-1998гг. был вызван не повышением эффективности производства или притоком иностранных инвестиций. Он произошел за счет проедания основных и оборотных средств предприятий, падения уровня жизни населения (с 1997г. население, как отмечает статистика, начало расходовать скудные, ранее накопленные запасы - валюту, золото, имущество) и, главное, за счет «раскрутки» инфляционной спирали. Искусственно вызванный экономический рост закончился, как и прогнозировалось экспертами, еще большим спадом уровня жизни и дальнейшим усугублением экономической ситуации.

Одна из самых сложных проблем независимой Беларуси заключается в неподготовленности местной номенклатуры к суверенному развитию страны. Отсутствии у нее адекватной реакции на новые вызовы времени. Все беды преподносились как результат «разрыва хозяйственных связей», что отражало испуг и неумение директората и политических руководителей использовать ситуацию для формирования нового экономического и социального качества жизни страны. Вместо модернизации, в Беларуси начался процесс мутации тради-

*(Продолжение на с. 6)*

ционных социальных, политических и экономических структур.

**Перспективы Беларуси при сохранении нынешнего курса.**

Нынешний, весьма низкий уровень жизни населения поддерживается за счет проедания ресурсов ближайшего будущего и поддержки России. Поставки газа по низким ценам удовлетворяют 2/3 потребности Беларуси в энергоносителях, оплачиваются за счет стоимости транзита Россией нефти, аренды военных баз и т.д. Несовершенство таможенного союза вызывает отток, в пользу Беларуси из России около 1,5 миллиарда долларов.

В настоящее время Россия перекрывает лазейки перетока средств в Беларусь. Но главное, в самой России заканчиваются возможности субсидирование за счет отраслей ТЭКа других отраслей хозяйства. Если учесть проедаемый износ основных фондов (около 3 млрд. долларов) и поддержку России, то можно утверждать, что текущее потребление в республике превышает возможности производства на 4-4,5 млрд. долларов в год (для сравнения: денежные расходы населения составляют 6-8 млрд. долларов). Это составляет 20-25% ВВП республики. Но жизнь не по средствам долго продолжаться не может.

В Беларуси нет ресурсов для модернизаций основных фондов. Иностранные инвестиции не поступают в силу чрезвычайно низкого инвестиционного рейтинга страны. Без иностранных инвестиций, Беларусь, как и Россия, обречена на сползание в группу наиболее бедных стран мира. Формирование регионального союза, включающего Россию и Беларусь, повторяет историю многих других региональных экономических союзов, имевших место после второй мировой войны. Эти страны не хотели попасть в зависимость от индустриальных стран и пытались создать собственную экономику с опорой на взаимный потенциал. Участники таких региональных объединений еще более отстали от развитых стран. А из 135 стран, вставших на путь развития после второй мировой войны, успеха добились лишь чуть более 30 стран, которые сделали свою экономику открытой.

Интеграция с Россией не сможет решить проблемы белорусской экономики. Если Россия включится в процесс глобализации, то иностранный или российский капитал вытеснит с российского рынка белорусские товары (что уже и происходит). Если же Россия вступит в противостояние с Западом и ограничит участие в процессах глобализации, то в этом случае у нее и у членов экономического союза не будет перспектив экономического развития. Потому что в России нет ни инвестиций (например, нефтяные компании России уже несколько лет, при всем их желании, не могут обеспечить инвестиции для реконструкции белорусских НПЗ), ни современных технологий (за редким исключением - советские ученые не успели вписаться в технологическую революцию последней трети XX века) для передачи их членам регионального экономического блока. Из этого следует, что развитие противостоящей Западу общественной системы с самодостаточной экономикой в предстоящие десятилетия невозможно.

Таможенный союз, отгородивший Россию и Беларусь забором из высоких пошлин и направленный на восстановление «разорванных связей» внутри блока, сдерживает вхождение Беларуси в мировую экономику. Желание создать четвертый (наряду с США, объединенной Европой и Японией) к тому же самодостаточный центр силы не имеет под собой реальной основы. По абсолютным объемам производства Россия (1,5% в мировом валовом продукте) уступает даже Калифорнии - одному из пятидесяти американских штатов. Что же касается валового внутреннего продукта на душу населения, то по этому показателю соседи позади таких стран как Суринам, Габон, Ботсвана, Сирия, Фиджи и т.д. Емкость рынка даже на пространстве всего СНГ сегодня слишком мала для эффективной специализации и кооперации производства продукции, прежде всего машиностроения. Поэтому программа развития промышленности Беларуси до 2015 года, предусматривающая равномерный рост производства во всех отраслях, включая восстановление производства отечественных компьютеров, просто наивна в свете тенденций мирового развития. Особенно, если вспомнить, что внешнеторговый оборот России в 2,5 раза ниже, чем в 10-миллионной Бельгии.

Сохранение нынешнего положения вещей чревато затягиванием «петли популизма» на десятилетия и, как следствие, переход надолго, если не навсегда в группу неспособных к саморазвитию стран.

Если кардинально не изменить существующий курс, экономическая и социальная деградация Беларуси будет продолжаться.

**Мир вокруг нас.**

Беларусь - это малая открытая экономика, которая по объему производимого ВВП, доли в мировой торговле (около 0,04%) не оказывает влияния на мировые экономические процессы. Принятие правил игры, устанавливаемых основными экономическими субъектами, учет тенденций и стандартов современной системы международного разделения труда является необходимой предпосылкой для успешного реформирования экономики Беларуси.

К концу XX века в борьбе двух противоположностей - протекционизма с одной стороны и свободного рынка и торговли с другой - определился явный фаворит. Мир становится экономически свободнее, международные организации и блоки устраняют существующие тарифные и нетарифные ограничения. Количество налогов уменьшается, доля государства в формировании ВВП неуклонно снижается. Экономическая власть переходит на уровень частного инвестора, предпринимателя, потребителя. Полное поражение централизованной плановой экономики, финансовый кризис в Азии, Латинской Америке и России, изменение производственной структуры мировой экономической системы, неэффективность государства-собственника и инвестора доказывают преимущества свободного рынка с жесткой системой контроля за исполнением контрактных обязательств.

Работать в рамках одной страны становится не эффективно. Конец века отмечен крупнейшими в истории слияниями транснациональных компаний в нефтегазовой отрасли, финансовых учреждений, в областях телекоммуникации, фармацевтики, транспорта. Уменьшение издержек, координация усилий в области научно-исследовательских разработок и жесткая конкуренция за потребителя - вот мотивация происходящих процессов глобализации в мировой экономике. Эти процессы инициируются частным секторов, собственниками капитала, они принципиально отличаются от белорусского пути, который характеризуется созданием крупных государственных компаний, предприятий, снабженцев-импортеров и посредников-экспортеров. В зарубежном мире ни на теоретическом, ни на практическом уровне не делают ставку на государственные инвестиции как на средство выхода из кризиса. Налицо качественная несовместимость параметров национальной

и внешней экономической среды.

Цены на промышленную продукцию в мире к концу века оказались самыми низкими за последние 40 лет. Падение цен приводит к реструктуризации производства. В течение последних 20 лет цивилизованный мир решил проблему продуктов питания. Появились признаки того, что промышленность последует примеру сельского хозяйства, в котором в развитых странах занято менее 5% населения и которое производит менее 5% ВВП. В результате стремительного роста производительности труда в сфере материального производства подавляющая часть трудоспособного населения развитых стран перемещается в сферу услуг.

На смену рутинному физическому труду приходит творческий. На одно место в механическом производстве сейчас приходится 3-4 места работников умственного труда.

Внедрение новых постиндустриальных технологий все более углубляет процессы глобализации мировой хозяйственной системы. Разработка и освоение таких технологий требуют привлечения столь значительных ресурсов, что ни одно самое мощное государство не в состоянии обеспечить научно-техническую базу экономического роста за счет собственных сил. Государства-одиночки или замкнутые, изоляционистские сообщества обречены на быстрое технологическое отставание, перемещение на обочину истории.

Реальной альтернативы включению страны в процессы глобализации не существует.

## Куток Выбаршчыка

Зараз Беларусь напярэдадні выбарчых кампаній. Сказаць, што беларусы з надзеяй чакаюць выбарчых кампаній, могуць толькі вялікія аптымісты. Занадта няўдалыя выбары рабілі нашы суайчыннікі ў сваёй большасці за апошняе дзесяцігоддзе, каб мець надзею на лепшы выбар.

Між тым, няма іншай магчымасці ўплываць на ўладу як праз выбары. Але для правільнага выбара патрэбна пэўная палітычная культура, якой вельмі не хапае нашым выбаршчыкам. Усе ранейшыя і існуючая улады імкнуліся да таго, каб свядомыя выбары пертвараліся ў шоу з таннымі прадуктамі ў крамах, абыходам выбаршчыкаў са скрынкамі, папулісцкімі абяцанкамі рамонтаў, будаўніцтваў, маніпуляцыяй грамадскай свядомасці праз падкантрольныя СМІ. Таму выбаршчыкам трэба павышаць сваю палітычную культуру, каб не быць марыянеткамі ў руках куклаводаў.

На старонках "Працоўнай Грамады" рэдакцыя адкрывае "Куток Выбаршчыка", каб сваімі сціплымі магчымасцямі садзейнічаць павышэнню палітычнай культуры грамадзян. Рубрыку разлічваем весці ў форме:"Пытанне – адказ" і таму чакаем ад чытачоў самых разнастайных пытанняў.

**1. Чаму апазіцыйныя дэмакратычныя партыі выступаюць за ўвядзенне прапарцыянальнай сістэмы? (В. М. К. )**

- Існуючая ў свеце дэмакратычная сістэма улады можа быць эфектыўнай, толькі пры умове існаванне кіруючай уладзе дзеяздольнай апазіцыі, якая яе эфектыўна кантралюе. Дзеля гэтага распрацавана ў кожнай краіне пэўная сістэма падтрымкі шматпартыйнасці: гарантыі яе дзейнасці, фінансавая падтрымка з бюджэта, магчымасць прыцягнення дабрачынных ахвяраванняў, прапарцыянальная сістэма выбараў.

- Прапарцыянальная сістэма выбараў прыдугледжвае выдзяленне партыям прапарцыянальна атрыманым імі галасоў выбаршчыкаў дэпутацкіх месц у парламентах. У краінах са сталымі дэмакратычнымі традыцыямі па гэтых прынцыпах абіраецца ўвесь заканадаўчы орган, а ў краінах постсавецкіх (Расія, Украіна ) па прапарцыянальнай сістэме абіраецца палова парламента.

- Толькі у Беларусі закансервавана савецкая мажырытарная выбарчая сістэма, якая гвалтоўна стрымлівае станаўленне рэальнай шматпартыйнасці. Магчыма запужаць, падкупіць аднаго, дзесятак дэпутатаў, але з партыйнымі фракцыямі трэба супрацоўнічаць. Ды і тэрытарыяльныя дэпутаты лабіруюць у парламенце мясцовыя, а не дзяржаўныя інтарэсы. Пры гэтым іх магчымасці залежаць ад пасад у парламенце. Добра тым рэгіёнам у каго дэпутат з Прэзідыума і кепска тым, у якіх дэпутат не мае пасаду.

- Увядзенне прапарцыянальнай сістэмы, магчыма толькі на 30%, значны крок наперад у развіцці грамадства, шматпартыйнасці, стварэнні сістэмы кантроля за уладай. Партыйныя фракцыі будуць мець значна больш магчымасцей зрабіць сістэму улады на Беларусі адкрытай, таму супраць гэтай сістэмы і выступае кіраўніцтва краіны.

**2. Чаму вылучэнне ад працоўных калетываў не з'яўляецца дэмакратычнай працэдурай?( В. А. К.)**

Па-першае, у задачах дзейнасці прац.кал. няма абавязкаў займацца палітычнай барацьбой і гэта заўсёды нясе напружанасць у іх жыцці, бо такую магчымасць могуць выкарыстоўваць толькі іх кіраўнікі або вышэйшае начальства.

Па- другое, у Выбарчым кодэксе адсутнічае абавязковасць працэдуры таемнага галасавання пры вылучэнні кандыдатаў, што не дае магчымасці зрабіць яго тайным і не дазваляе пазбавіцца фальсіфікацый пры вылучэнні.

Па- трэццяе, у кодэксе закладзена магчымасць прац. кал. галасамі 76 выбаршчыкаў вылучыць кандыдата, а для збора подпісаў па вылучэнню патрэбна аж 1000(!) галасоў. Вось так – 14 подпісаў з усімі пашпартнымі данымі варты толькі аднаго падняцця рукі!

### Швецкая мадэль устойлівага развіцця

## Барон - перадавік сельскагаспадарчай вытворчасці

Працягваючы апавяданне пра ўражанні ад паездкі ў Швецыю, хацеў бы спыніцца на сельскай гаспадарцы. Безумоўна, гэта два света: швецкая і беларуская сельскія гаспадаркі. Калі ў нас стагоддзе прайшло пад знакам разнастайных эксперыментаў на вёсцы (хутарызацыя, калектывізацыя, меліярацыя, хімізацыя, алкагалізацыя), то ў Швецыі ішло паступовае ўдасканаленне аграгэхнічнай культуры гаспадароў зямлі. Вынікам камуністычных эксперыментаў стала вынішчэнне гаспадароў на зямлі і дэградацыя значнай часткі сялян, а вынікам швецкага гаспадарання стала здольнасць 2% насельніцтва ( у нас больш 20%) якасна пракарміць не толькі Швецыю, але і суседнія краіны.

Перамогу мадэлі, заснаванай на прыватнай уласнасці, ініцыятыве, мы ўбачылі ў маёнтку, дзе нас гасцінна сустрэлі барон і баранэсса фон Арнольд.

Спадарыня пазнаёміла дэлегацыю з гісторыяй маёнтка, якая налічвае больш трох стагоддзяў. Сцены маёнтка дыхалі даўнінай, калі мы пераходзілі з аднаго пакоя ў другі знаёмічыся з музычнай гасцінай, сцены якой упрыгожвалі партрэты усіх уладальнікаў, пачынаючы з XVII стагоддзя і дзе адбываюцца канцэрты для гасцей камуны Трэлерборг; з разнастайнымі музейнымі экспазіцыямі, сярод якіх быў камін 1650 году вырабу; са спадчыннай бібліятэкай, дзе сабраны кніг з XVII-XIX стагод-дзяў на французкай, няме-цкай, англійскіх мовах. Удзельнік дэлегацыі Васіль Дубейка на келіхах, якія гаспадары падносілі мала-дым пад час вяселля, уба-чыў гербы

*(Працяг на 8 стар.)*

род Радзівілаў з Нясвіжа і пераканаўча даказаў, што келіхі выраблены на Беларусі, а не ў Расіі, як лічылі раней уладальнікі маёнтка.

Спадар Отто фон Арнольд распавёў пра гаспадарчыя справы маёнтка. Отто атрымаў юрыдычную і эканамічную адукацыю і гаспадарыць на 1500 га зямлі. Гаспадарка мае 5 трактароў і 3 камбайны, на якіх працуе 10 работнікаў. Барон займаецца раслінаводствам і вырошчвае пшаніцу (ура-джайнасць 90-100 ц/га), піўны ячмень (ураджайнасць 80-90 ц/га), а таксама гарох, рапс. Пад час сезонных работ запрашае не студэнтаў, а 3-4 работніка. Піўное зерне пастаўляе ў Данію, Англію. За апошнія гады у гаспадарцы перайшлі на сушку зерня саломай, што дазваляе эканоміць больш 200 тон мазута за сезон.

Наша пытанне:"Як сказваецца дрэннае надвор'е на вытворчасці?" – спачатку у гаспадара выклікала няўразуменне, а калі мы нагадалі пра засуху, дажджы, ураганы, замаразкі, то пачулі ў адказ- "Магчыма зніжэнне ураджая на 5-10 %."

Сустрэча ў Ярдберга Горд засведчыла яшчэ раз, якой вялікай стваральнай сілай з'яўляецца прыватная уласнасць, ініцыятыва, што надае чалавеку свабоду і вялікае пачуццё адказнасці за свае справы. Няма ніякай іншай сілы, якая стварыла бы гаспадара зямлі, бо ніякія дэкрэты, указы, райкамы і вертыкалі на гэта не здольны.

**Леанід Гаравы**

## ЭХ, ДАРОГІ... НЕ ЗАСНЕШ...

За апошнія гады рэзка павялічылася колькасць аўтамабіляў на дарогах Беларусі. Асабліва шмат стала шматтонных машын, якія з прыбалтыйскіх партоў вязуць тавар ў Санкт-Пецярбург. У выніку павялічаных нагрузак, асабліва ў летні перыяд, паступова пашкоджваецца асфальтавае пакрыццё дарог. І аўтамашыны, якія раней рухаліся амаль бясшумна, зараз утвараюць вялікі грохат, трапляючы ў пасткі – калдобіны, ямкі.

Шмат падобных пастак на вуліцы Гагарына, дзе праходзіць траса з Полацка ў Расію. Шматтонныя машыны ствараюць рокат і грохат, выкідваюць атрутны дым, перашкаджаюць жыццё грамадзян.

Узнікае некалькі пытанняў. Чаму нельга зрабіць выдатнай частку трасы ў межах горада? Як выкарыстоўваюцца значныя сродкі, што збіраюцца з уладальнікаў транспарта праз розныя паборы? Ці не настане час, калі міжнароднаму транспарту будзе выгадна аб'язджаць Беларусь, а нам застануцца разбітыя дарогі?

## Дзе набыць праяздны білет?..

У сярэдзіне траўня рэзка ўзрос кошт праезда у гарадскім аўтобусе: з 20 000 руб. да 40 000 руб (недамініраваных), што у некалькі разоў апярэдзіла рост заробка і тэмп інфляцыі за паўгода. І калі прадпрыемства, арганізацыі горада маюць аўтобусы для бясплатнага падвоза сваіх работнікаў, то працаўнікі бюджэтнай сферы адразу адчулі рост праезда удвая.

Просты падлік паказвае, што за праезд па Гарадку за дзень трэба заплаціць амаль столькі ж колькі за паездку ў Віцебск(!). Кошт праезда за месяц складае больш трох млн. недамініраваных рублёў, а за квартал боль дзесяці млн.! Гэту суму магчыма скараціць, калі адмовіцца ад абеда, бо грамадскае харчаванне зараз не па кішэні.

Толькі ці не разумней увесці праяздныя білеты для пастаянных пасажыраў, бо гэта нонсенс, што праезд па Гарадку дагнаў паездку ў Віцебск.



# АБВЕСТКІ

Гарадоцкая Рада ТБМ прадстаўляе сябрам дэмакратычных арганізацый, аўтарам газеты "Працоўная Грамада" **бясплатныя паслугі** па ксеракапіраванню матэрыялаў па гісторыі і культуры Беларусі, падрыхтоўцы буклетаў, візітовак.

Зацікаўленым асобам звяртацца па тэл.: 2-38-42

**Шаноўныя чытачы газеты "Працоўная Грамада"!**

Калі Вы жадаеце атрымліваць усе наступныя нумары нашага выдання – рабіце заяўкі па рэдакцыйнаму тэлефону.

Акрамя таго, усе жадаючыя **могуць бясплатна** атрымліваць наступныя выданні:

**"Свабоднае слова"** – дайджэст і інфармацыя ( матэрыялы недзяржаўнай прэсы)

**"Гасцінец"** – грамадска-палітычнае выданне Гарадоччыны.

Чытачы таксама маюць магчымасць пазнаёміцца з выданнямі НДА Віцебшчыны: **"Крэсы", "Сумежжа" (Паставы), "Рубон" (Верхнядзвінск), "Новы горад" (Наваполацак), "Орша-info" (Орша), "Кардон" (Бешанковічы).**


Заснавальнік: Леанід Гаравы. Рэдактар: Леанід Паўлаў

Адрас: 211540, г. Гарадок, вул. Гагарына, 30-б - 16

Тэл. 8-239-2-17-91

E-mail: gasc@gar. belpak.vitebsk. by

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»

Распаўсюджваецца бясплатна Наклад 290 асобнікаў